


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 7(665)**
**Ліпень 2021 г.**


# Купальле ў штаце Нью-Ёрк

Пасьля перапынку, выкліканага пандэміяй каронавірусу, у штаце Нью-Ёрк прайшло традыцыйнае сьвяткаваньне абраду Купальля. Імпрэза была арганізаваная суполкай "Беларусы ЗША – Разам лягчэй" з удзелам Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Гэтым разам рэгістрацыя для ўдзелу ў імпрэзе была закрытая і адбывалася па запросінах арганізатараў. Пасьля леташняга перапынку было прыемна ізноў пабачыць знаёмыя прыгожыя мясьціны і сяброў-землякоў.

Сьвяткаваньне Купальля ў Нью-Ёрку сярод найноўшай хвалі беларускай эміграцыі бярэ пачатак ад 1999 году, калі ў беларускім рэсорце Белэйр-Менск сабраліся беларусы і адзначылі гэты старадаўні нацыянальны абрад. Затым з дапамогаю Пятра і Алены Рыжых, што пазнаёміліся якраз на Купальлі ў Белэйр-Менску, была знойдзеная пляцоўка ў выдатным запаведніку Ўард-Паўнд-Рыдж на поўнач ад горада Нью-Ёрка ў верхняй частцы штату, дзе цяпер штогод і праводзіцца нью-ёрскае Купальле. Наагул сьвяткаваньні Купальля праводзіліся і раней, асабліва сярод паваеннай хвалі іміграцыі.

Сёлета надвор'е было спрыяльным, хоць удзень часам сонца засьцілі хмаркі, але дажджу не было. Увазе гасьцей, асабліва моладзі, была прадстаўленая багатая праграма – спартовыя мерапрыемствы і гульні, эстафэта, гайкінг, валейбол, футбол. Жадаючыя маглі паспрабаваць свае сілы ў практыкаваньнях ёгі. Можна было падмацаваць свае сілы дранікамі ды іншымі стравамі, што падрыхтавалі арганізатары.

Сёлета не атрымалася забясьпечыць усіх жадаючых нацыянальнымі сторямі, але сп-ня Валянціна Якімовіч кожны раз падкрэсьлівае, што народныя строі, актыўны ўдзел у абрадах і сьпевах падвышаюць адказнасьць за Купальле. Перад пачаткам абраду прысутныя парамі праходзілі праз браму, ачышчаліся вадою і заручаліся падтрымкай містычных сілаў, і тады сядалі на лаву цалавацца з сваімі абраньнікамі – калі абедзьве асобы паварочвалі галовы ў той самы бок, гэта паказвала на гармонію адносінаў і тоеснасьць характараў.

Спадарства Рыжых, мужчынская яе частка, з дапамогаю іншых хлопцаў і мужчынаў заняліся нарыхтоўкай дроваў для вогнішча. Вогнішча было падрыхтаванае з "дрэвам жыцьця" – слупом з колам наверсе. Прысутныя пачалі сьпяваць зазыўныя "Добры вечар добрым людзям! Клічам мы вас на Купальле!" Купальская грамада абрала князя-Купаліша і Купалінку. Сёлета імі сталі Вадзім і Гражына. Затым, пасьля захаду сонца, пачаўся купальскі абрад, які вяла сп-ня Валянціна Якімовіч. Удзельнікі сьпявалі: "А ў нас сёньня Купалачка-Купала, а на

*заканчэньне на бачыне 2*



# Купальле ў штаце Нью-Ёрк

*заканчэньне з бачыны 1*

заўтра ў нас Іванічка"; "А йшла Купалка сялом-сялом, ой рана-рана, раненька". Пад гэтыя купальскія сьпевы Купаліш з Купалінкай падпалілі вогнішча, жордку-слуп з колам наверсе, што маюць магічнае значаньне і тлумачацца традыцыйнай міталёгіяй як "дрэва жыцьця", што злучае неба і зямлю.

Прысутныя сталі хадзіць карагодамі і сьвяваць традыцыйныя сьпевы, якія хораша запявала сп-ня Валянціна Якімовіч. Сьпевы падхоплівалі прысутныя. Сярод сьпеваў былі "Купалінка", "Ой рана на Йвана". Калі жордка-вось з колам перагарае і падае, дык на каго яна пакажа, азначае, што гэтыя людзі цягам году ажэняцца.

Яшчэ была спаленая выява злой багіні Мары-Марэны, і разам зь ёю зь ёю – усё дрэннае і шкоднае, усе страхі й трывогі.

Затым пачаліся купальскія гульні, сярод іх карагод "Падушачка".

У часе гульняў "нячысьцікі" скралі Купалінку, і тады дружына з князем-Купалішам начале кінулася на яе пошукі. Нарэшце Купалінку знайшлі, і радасная грамада пачала скокі праз вогнішча. Агонь, па народных уяўленьнях, мае ачышчальную сілу, а вогнішча стварае злучальную сілу як складнік котлішча, гаспадаркі, сямейнага дабрабыту.

Затым моладзь выправілася шукаць папараць-кветку. Той хто знойдзе яе, стане шчасьлівы, зможа разумець мову прыроды.

Потым удзельнікі сьвята маглі падмацавацца стравамі й выпіць крупніку – традыцыйнага напою, у выраб якога улучаныя каля трыццаці лекавых траваў.

Пасьля традыцыйнага абраду адбыўся акустычны канцэрт, з энтузіязмам сустрэты моладзьдзю. Перад прысутнымі выступіў Аляксандар Мазгавы з кавэрамі "Я нарадзіўся тут" З. Вайцюшкевіча і "Бусел" гурта "Дай дарогу!". Міхаіл Шаўчэнка выканаў творы, што ён напісаў сам.



Затым прысутныя заўзята танчылі з каляровымі "магічнымі жэзламі".



Затым жадаючыя прыняць удзел у купаньні паехалі асьвяжыцца ў прахалоднай вадзе.

Назаўтра усе мелі нагоду працягваць насалоджвацца выдатнымі краявідамі й цудоўным надвор'ем, прайсьціся па прыгожых мясьцінах і калегавацца зь землякамі.

Падзяка за добра падрыхтаванае і выдатна праведзенае сьвяткаваньне і за якасна праведзены час належыцца добрай знаўцы фальклору і традыцыяў Валянціне Якімовіч і арганізатарам сьвяткаваньня – Ганьне Шарко і Аляксандру Мазгавому, сям'і Рыжых, Кацярыне Александроўскай, Вадзіму Крывавязу, Яўгену Іванюку, Вячаславу Аднавораву, Міхаілу Шаўчэнку.

Спадзяемся на падтрыманьне традыцыі, што праходзіць праз выпрабаваньні і жадаем, каб і ў наступным годзе адбылася такое ж добрае сьвяткаваньне Купальля.

***Віталь ЗАЙКА***

# Аб сутнасьці санкцыяў супраць Беларусі



Тое, што эканамічна-фінансавыя санкцыі супраць Беларусі не ліквідуюць рэжым Лукашэнкі і тое, што яны выгадныя Маскве, каб забраць беларускую эканоміку і засмаргнуць Лукашэнку, і тое, што гэты працэс разьвіваецца ў выніку актыўнай маскоўскай палітыкі з выкарыстаньнем груповак Латушкі-Ціханоўскай, — гэта факт відавочны.

Масква пасьлядоўна падключаецца пад апазыцыйныя адносіны беларусаў супраць Лукашэнкі і робіць сваю расейскую справу. (Прытым, для разуменьня "масаў" гэтая простая тактыка, на жаль, маладасяжныя.)

Падрыхтоўцы да санкцый спрыялі даволі якасныя відэафільмы з крытыкай Лукашэнкі, зробленыя праз маладзёна ўплыву (напачатку непаўналетняга) Сьцяпана Пуцілу. (Дарэчы, у гэтых фільмах — ні слова пра Расею — тыповы пракол расейскай агентуры.)

Далей расейцамі была кандова разыграная камэдыя з падрыхтоўкай замаху на Лукашэнку і арышт "змоўшчыкаў", куды трапілі гаваруны ў Сеціве.

І, нарэшце, апошняя апэрацыя з прымусовай пасадкай чужога пасажырскага самалёта нібыта для захопу "апазыцыянэра", якім аказаўся маладзён Раман Пратасевіч з групы інфарматараў "Нехта", што выконваў там службовую журналісцкую працу.

Адным словам лукашысцкі рэжым пад уплывам маскоўскіх "радцаў" бабахнуў з гарматы па вераб'ях. Але плян пасадкі самалёта дзеля захопу маладзёна спрацаваў фэнамэнальна.

Шматгалосьсем загучэла патрабаваньне санкцыяў супраць Беларусі (ніхто ўжо не зьвяртае ўвагі на юрыдычны бок справы, тым больш на здаровы сэнс). Забыліся і пра змоўшчыкаў "тэрарыстаў", што нібыта рыхтаваліся забіць Лукашэнку (яны, дарэчы, сядзяць), амаль ніхто ня кажа пра катаваньні беларусаў у турмах рэжыму, пра беларускіх вязьняў, схопленых на зьнішчэньне — Аўтуховіча, Севярынца, Маёраву, Шарэнду-Панасюк і сотні іншых.

Эўразьвяз цяпер цалкам заклапочаны арыштам Рамана Пратасевіча, што "без лішней дракі попал в большые забіякі". Маладзёну, як можна здагадацца, падрыхтаваны шлях Васкрасенскага, а ўсім астатнім вязьням рана ці позна — лёс Вітольда Ашурака — забойства ў турме. (Прычым Эўразьвяз са сваімі сантымэнтамі пра Пратасевіча і без разуменьня рэчаў сядзе ў галёш).

Ніхто ў Эўразьвязе ня кажа (ім не падалі "дэмсмі") пра лёс сапраўднага патрыёта і героя Беларусі Дзяніса Івашына, які за кратамі даўно бязь вестак і якога, гэтак жа, як і Ашурака, бандыты, магчыма, зьбіраюцца забіць.

Чаму так — зразумела. На парадку дня санкцыі. Усе трубяць толькі пра санкцыі. Расея дамаглася свайго.




Трэба ўлічваць тое, што ўлічыла Масква. Санкцыі супраць Беларусі на гэтым этапе зручныя для прагматычнай Эўропы. І найбольш для Нямеччыны, якая фактычна, дзейнічае супольна з Расеяй.

Немалаважнае значэньне для Эўропы мае танная рабочая сіла (за якую ўжо йдзе канкурэнцыя). Але галоўнае — гэта эканамічныя і геапалітычныя інтарэсы Нямеччыны і Расеі.

Назаву толькі чыньнікі. Паўночная плынь газапровада (завяршальным этапам якога кіруе афіцэр былой Штазі) насуперак краінам Усходняй Эўропы будзе дабудавана. Гэта дасьць магчымасьць Нямеччыне стаць разьмеркавальнікам газавай энэргетыкі ў Эўропе, што ўзмоцніць ролю Нямеччыны і аслабіць Украіну (аблегчыць там расейскую інвазію). Гэта ўмацуе пазыцыю Эўразьвязу, каб прымусіць Польшчу адмовіцца ад цеплавой энэргетыкі (важнай для Польшчы) і ад здабычы каменнага вугалю (тут моцны ўдар па Польшчы). Нямеччына павялічыць сваё лідэрства ў Эўразьвязе і ўрэшце прымусіць краіны адмовіцца ад права "вета" (тады далейшая будучыня Эўразьвязу — новы "Савецкі Саюз")

А каб найбольш рэвалюцыйны народ у Эўропе і, практычна, адзіная рэальна каталіцкая краіна ў Эўразьвязе — Польшча не нарабіла тут клопатаў, дык расейскія войскі (у выніку санкцыяў супраць Беларусі) могуць стаць за Бугам. Руку на пульсе ў гэтай "палітэканоміі" будзе трымаць Расея.

Паўтараецца нямецка-расейская схема ХХ-га стагодзьдзя. Так будзе заўсёды, пакуль існуе Расея і расейскае "скопішча зла".

Аб'ектыўна ацэньваючы, трэба спыніць паліт-гастралёраў з гаворачай лялькай на авансцэне, гэтых агітатараў за забойныя санкцыі супраць беларускай Незалежнасьці, што пад выглядам змаганьня супраць Лукашэнкі капаюць яму народу Беларусі. Беларуская эканоміка адкрытага тыпу (ад пачатку такой была). Страчаныя рынкі назад ня вернеш. Адчыніцца маскоўская кабала. І рэжым, і Лукашэнка, і гэтыя гастралёры аднолькава гатовыя ўгробіць краіну і народ дзеля сваіх палітычных інтарэсаў. Але тое ім ня ўдасца.

*15 чэрвень 2021 г.*

**Зянон ПАЗЬНЯК**

# Слоўнік нацыянальнай ідэі

## Б - як беларуская мова

Давайце тэзісна пра беларускую мову. Беларусы не французы, а Беларусь не імпэрыя. Нашая нацыя ня можа базавацца выключна на беларускай мове. Беларуская нацыя збудаваная на іншым, а беларуская мова толькі адзін з фундамэнтаў. Беларус можа заставацца беларусам ня ведаючы беларускай мовы, хоць абавязкова павінен разумець яе вартасьць, спагадаць ёй у грамадзкім жыцьці і хінуцца да вывучэння яе – калі не асабіста, то, прынамсі, прывучыць да яе сваіх дзяцей. Замежнік ня можа стаць беларусам дасканала вывучыўшы беларускую мову. Беларусамі не становяцца – гэта ня клюб зь сяброўствам. Беларусамі нараджаюцца. Гаварыць па-беларуску не дастаткова. Па-беларуску трэба думаць. Беларуская мова – гэта ў першую чаргу нават ня мова, а беларускі парадак словаў – беларускае мысленьне. А гэтаму ня вучаць ні ў школе, ні на курсах.

***Віталь ВОРАНАЎ***

# Пра Быкава

19-га чэрвеня 1924 году нарадзіўся Васіль Быкаў.

Уражлівае адчуваньне. Чым далей аддаляешся ў часе ад далёкай пары, тым больш разумееш, як не хапае Быкава. Той цяжкі час, калі змагаліся за волю і, як на крыльлях, жылі надзеяй, калі дасягнулі Незалежнасьці любай Айчыны, калі за плячыма заўсёды былі Быкаў, Барадулін, Караткевіч, Бураўкін, Баразна, браты Грыцкевічы, Конан, на словы якіх можна было абаперціся, як на рыцырскае кап'ё, той час застаўся ва ўяўленьнях, як вецер, як брацтва сваіх, што шчымліва жыве ў памяці.

Нічога няма лепшага за духоўнае адзінства людзей, калі нават можна не казаць, бо гаворыць маўчаньне.



Быкаў вельмі перажываў за Беларусь, за лёс краіны, але не паказваў сваіх перажываньняў. Часьцей за ўсё ён маўчаў. Ён мала гаварыў пра літаратуру, жыў па разуменьні Гётэ: "Твары мастак – не гавары". Ён глыбока ведаў душу беларуса, асабліва простага чалавека, выяўляў у творах спагаду да яго і сваю любоў.

Вялікі пісьменьнік – гэта той, хто ведае, увекавечвае ў творчасьці лёсы людзей як лёсы народа.

Якая добрая, якая чалавечая, якая магутная беларуская літаратура.

Зазьзяе сонца – і ўсё адродзіцца.

*19 чэрвеня 2021 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

### Уплаты ў Згуртаваньне

**Складкі й ахвяраваньні:**

**П. Асіеўскі** ...............60
**М. Івашчанка** ............60
**М. Маляваньнікава** 60
**К. Пляўга** ................60
**В. Фядотава** ..............60

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" *Viktar Yedzinovich.***

### Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

Шаноўныя сябры, калі ласка, своечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на ***"Весткі й Паведамленьні"****. (інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча).*

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

**П. Асіеўскі** ................30
**А. Кавальчук** ..............30
**М. Маляваньнікава** 30
**К. Пляўга** .................30
**В. Фядотава** ...............30

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас рэдакцыі:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich****.*